Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# IV СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ Б. С. С. Р. VII СКЛІКАНЬНЯ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 10

23 студзеня 1927 г.

МЕНСК



## Да ведама прамоўцаў.

Усе прамоўцы, якія заўважаць недакладнасьці ў сваіх прамовах, зьмешчаных у бюлетэнях Сэсіі, павінны зараз-жа пасьля атрыманьня бюлетэню заявіць аб гэтым ў рэдакцыйную камісію. Гэтая заява і папраўкі павінны быць зроблены на працягу трох гадзін па выдачы бюлетэню. Пасьля гэтага тэрміну прамовы будуць аддавацца для друку ў стэнаграфічнай справаздачы Сэсіі, і ніякія заявы аб зьменах і папраўках прымацца ня будуць.

# 10-ае пасяджэньне Чацьвертай Сэсіі ЦВК 7-га скліка볼ньня.

Вячэрняе.

*23-га студзеня 1927 году.*

Пасядженьне пачалося а 6 гадзіне.

*Старшыня—тав. Чарвякоў.*

Старшыня: Пасяджэньне адчыняецца. У парадку дня працяг спрэчак па дакладу тав. Прышчэпава.

Слова ў парадку спрэчак мае тав. Жогаў.

Тав. Жогаў: Таварышы, гаварыць аб тым вялікім значэньні, якое мае кодэкс, які мы сёньня разглядаем, бязумоўна, ня прыходзіцца ўжо па аднаму таму, што Сэсіі ЦВК другі раз прыходзіцца абгаварваць гэты кодэкс на сваіх пасяджэньнях, а таксама і таму, што гэты кодэкс быў перадааны на шырокае абгаварэньне сялянскай масы. Усё гэта гаворыць за тое, што ў гэтым кодэксе зацікаўлены як само насельніцтва, так і ўрад Беларусі. Тут, таварышы, неабходна падкрэсьліць, што правядзеньне ў жыцьцё гэтага кодэксу зьнішчыць тыя недахваты, якія былі ў мэліорацыйнай працы. Мы ведаем, як вельмі дрэнна ў жыцьці вёскі адбівалася адсутнасьць сталага закону аб мэліорацыйнай працы; калі селянін ня ведаў, ці застаецца пэўны кавалак зямлі ў яго карыстаньні, ці можа пры зямляўпарадкаваньні пяройдзе да другога і г. д. Калі, таварышы, ня было гэтых законных нормаў, дык адсутнасьць іх, бязумоўна, вельмі перашкаджала ў нашай працы па мэліорацыі. Я хачу спыніцца на тым, які ўдзел дзяржава прымае ў правядзеньні мэліорацыі на свае сродкі. Тав. Тамашэўскі казаў, што дзяржава прымае малы ўдзел сваімі сродкамі, што неабходна ўскласьці на дзяржаву больш абавязкаў па мэліорацыі. Калі мы возьмем артыкул, які гаворыць аб тых абавязках, якія павінна ўзяць на сябе дзяржава, дык мы, таварышы, бачым, што вельмі вялікую працу і вялікія выдаткі бярэ на сябе дзяржава пры правядзеньні мэліорацыйнай працы. Праўда, тут трэба адзначыць, што калі мы паглядзімо на пэрспэктыўны плян Наркамзему па разьвіцьцю сельскай гаспадаркі, дык там мы ўбачым, што асноўныя водапрыемнікі-магістралі па пэрспэктыўнаму пляну будуць рамантавацца за кошт дзяржавы на 20 проц. Гэтага, бязумоўна, мала. Тут трэба было-б па пляну Наркамзему прадугледжваць ня 20 проц. дзяржаўных сродкаў і 80 проц. сялянскіх, а каб дзяржава ўзяла на сябе ў пэрспэктыўным пляне значна больш.

Далей, таварышы, якія абавязкі павінны ўзяць на сябе іншыя ўстановы; які ўдзел у мэліорацыі павінна ўзяць на сябе, напрыклад, лясное ведамства? Аб гэтым таксама сказана мала ў кодэксе. Мы ведаем, што пры правядзеньні мэліорацыі нам прыходзіцца сустрачацца з такімі выпадкамі, што некаторыя таварыствы для таго, каб спусьціць ваду, пераходзяць на лясныя плошчы. На 3-4 вярсты правядуць канал, а больш нельга—лясное ведамства гаворыць: калі трэба спускаць ваду, дык капайце праз лес канал. Нельга прымушаць насельніцтва, каб яно

рабіла канал праз лес, а трэба, каб само лясное ведамства прымала большы ўдзел у гэтых мэліорацыйных работах.

Далей, таварышы, мне хочацца спыніцца на некаторых артыкулах кодэксу, напрыклад, 163, 164, якія, мне здаецца, нічога не дадуць. Тутака трэба-б было сказаць больш ясна. Так, адносна пяшчаных плошчаў гаворыцца:

«Народнаму Камісарыяту Земляробства даецца права абавязваць зямлякарыстальнікаў пясчаных плошчаў рабіць залясеньне гэтых плошчаў у тых выпадках, калі пяскі пагражаюць заносам ужыткоўным землям».

Далей арт. 164 дадае: зямлякарыстальнік, не жадаючы праводзіць ускладзеных на яго ў парадку папярэдняга арт. лясных мэліорацыйных работ, павінен пісьмова заявіць аб гэтым зямельнай камісіі.

А зямельная камісія можа ад яго гэтыя пясчаныя плошчы адняць і аддаць другому, які можа засаджваць. Вельмі мала знойдзецца, мне здаецца, такіх ахвотнікаў, каб гэтыя пясчаныя плошчы засаджваць. Мы ведаем, што ў нас у некаторых раёнах вельмі многа пясчаных плошчаў, ад якіх адмаўляецца насельніцтва. Трэба было-б сказаць больш рашуча і абавязаць насельніцтва засаджваць плошчы, бо пяскі засыпаюць выгодныя плошчы, або каб гэтыя плошчы былі перададзены Наркамзему для прыняцьця якіх-небудзь мер у стасунку засаджваньня гэтых плошчаў.

Адносна арт., які гаворыць аб даваеннай максымальнай норме. Тав. Прышчэпаў у дакладзе адзначыў, што балотны кулак зьяўляецца больш небясьпечным, чымся кулак сухапутны. Але гэтыя артыкулы мэліорацыйнага кодэксу прыняты, як быццам для таго, каб стварыць «балотных» кулакоў. Паглядзім, колькі можа мець гаспадарка, калі яна можа правесьці ў жыцьцё гэтую норму. Мы ведаем, што сярэдняя максымальная норма на 4 працоўныя адзінкі роўна 11, 12 дзес. зямлі. Калі мы дамо ў падвойным разьмеры, дык будзе 22—24 дзес. зямлі на 4 чалавекі, а калі 8 працоўных душ, то 44—45 дзес. зямлі. Гэта, таварышы, будзе моцны «балотны» кулак. Трэба будзе заахвочаньне даць, але не паўторную максымальную норму,—гэта будзе вельмі многа. Сэсіі ЦВК прыдзецца зьвярнуць на гэта ўвагу і трэба будзе паменшыць гэтую норму (Чарвякоў: наогул вы лічыце магчымым павялічыць?). Трэба будзе павялічыць, але не ў падвойным разьмеры.

Далей, таварышы, Паўлюкевіч, спыняўся на тым, што выканаўчыя камітэты не даюць права насельніцтву ў справе рэгуляваньня работ і г. д. Мне здаецца, што выступленьне яго было няўдалае. Кодэкс прадугледжвае, напрыклад, зацьвярджэньне плянаў каштарысаў і г. д. Зямельныя камісіі райвыканкомаў разглядаюць гэтыя справы так, што кодэкс прадугледжвае ўзаемаадносіны між мэліорацыйнымі таварыствамі і райвыканкомамі.

Далей, таварышы, трэба зьвярнуць увагу вось на што. Мы прымаем водна-мэліорацыйны кодэкс, але калі мы ня прымем рашучых мер, каб гэты кодэкс праводзіўся ў жыцьцё, дык тут усё-такі мы не дасягаем патрэбных вынікаў. Насельніцтва цяпер вельмі імкнецца да мэліорацыйнае работы, таварыствы растуць, як грыбы пасьля дажджу, але ня маюць магчымасьці тэхнічнага абслугоўваньня—не хапае тэхнікаў. Таварышы, якія выступалі, адзначылі, што неабходна ў кожным раёне дадаць аднаго тэхніка-мэліоратара. Дзеля гэтага ў першую чаргу нашаму ўраду неабходна будзе зьвярнуць увагу на больш сьпешную пад-

рыхтоўку гэтых тэхнікаў, і тады будзе магчымасьць сваім кіраўніцтвам абхапіць гэтыя таварыствы.

Далей, таварышы, яшчэ адна перашкода на шляху разьвіцьця гэтых мэліорацыйных таварystваў—гэта недахват, як сказана ў пэрспэкцыйным пляне, балотна-лугавога інвэнтару, і дзеля гэтага там сказана, што ў першыя гады мы будзем залежаць ад суседніх гаспадарстваў. Мы імкнемся да таго, каб не залежаць ад замежных краёў. Калі ў нас не хапае балотна-лугавога інвэнтару, дык трэба патурбавацца аб тым, каб гэты інвэнтар выраблўся ў нашай уласнай краіне, для таго, каб нам ня прыходзілася зьвяртацца да замежных краёў. Толькі пры пашырэньні і разьвіцьці гэтае вытворчасьці мы больш шпарка пойдзем па лініі мэліорацыі.

Старшыня: Слова мае тав. Цыганкова.

Тав. Цыганкова: Я хачу спыніцца на тэй заўвазе, якую зрабіў тав. Прышчэпаў адносна сельска-гаспадарчага падатку за мэліараваную зямлю. Мне ў гэтым пытаньні прышлося стыкацца на мясцох. Раней у нас былі балоты, на якіх расла толькі асака, пасьля-ж правядзеньня мэліорацыі там і асакі ня стала, і сяляне крыўдзяцца на тое, што ім прыходзіцца плаціць сельска-гаспадарчы падатак за гэту зямлю. Я думаю, што пакуль гэтая зямля ня будзе канчаткова землеўпарадквана, дык сельгаспадатак трэба зьменшыць.

Хачу яшчэ спыніцца на пытаньні аб крэдытах. Крэдыты трэба даваць доўгатэрміновыя і пры гэтым паменшыць процант, які бярэцца за крэдыт. У нашай Віцебскай акрузе ўсе сяляне-беднякі,—яны ня маюць магчымасьці купіць угнаеньня і травы, у іх сенажацяй няма і на зямлі нічога не расьце. На справаздачных сходах сяляне кажуць: «Вось мы ўвашлі ў мэліорацыйныя таварыствы і зараз нам трэба проценты выплачваць і сельска-гаспадарчы падатак плаціць за гэтую зямлю».

Старшыня: Слова мае тав. Траяновіч.

Тав. Траяновіч: Усе таварышы, што выступалі, гавораць адно і тое-ж самае: «Нам патрэбна мэліорацыя, нам патрэбны торфараспрацоўкі», а калі гэта так, дык нам патрэбен і закон, які-б рэгуляваў гэтыя галіны работы. Мне здаецца, што мы павінны абгаварыць некаторыя артыкулы гэтага кодэксу. Так, напрыклад, на стар. 11, арт. 30 аб берагавой паласе агульнага карыстаньня.—На берагох водных цячэньняў, прыгодных для суднаходзтва, выдзяляюцца берагавыя палосы агульнага карыстаньня, шырынёю ў 20 мэтраў...» Мне здаецца, таварышы, што 20 мэтр. гэта замнога. Гэта, прыблізна, на кожную вярсту 4 дзесяціны зямлі. Калі гэтыя рэкі будуць працякаць па сялянскай зямлі, дык хоць 4 дзесяціны на кожную вярсту ня могуць выклікаць вялікіх страт, але ў кожным выпадку гэта нядобрая зьява. Я думаю, што было-б лепш зьменшыць гэтую паласу.

Цяпер далей, у 38 артыкуле, ва ўвазе другой гаворыцца: «Пабудова на берагавой паласе агульнага карыстаньня часовых будынкаў дапушчаецца толькі з дазволу адпаведных органаў». Па маёй думцы, тут не паказана, якія іменна органы. Далей, ва ўвазе да 43 артыкул. гаворыцца: «Скарыстаньне берагавой паласы для паказаных у гэтым артыкуле мэт робіцца Народным Камісарыятам Шляхоў Зносін па згодзе».

Выходзіць, што на тых землях, дзе рака праходзіць, на землях, што належаць Народнаму Камісарыяту Шляхоў Зносін, хоць карыстаньне гэтымі рэкамі дапушчаецца бясплатна, але трэба мець дазвол ад Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін. Калі вучастак належыць вайсковым часткам, дык трэба зварачацца да іх. Тое самае датычыць і сельсаветаў

і райвыканкомаў і г. д. Я лічу, што кодэкс павінен прадугледзіць утварэньне камітэту, які-б рэгуляваў гэтае пытаньне, каб усім грамадзянам, якія жадаюць карыстацца берагавою паласою, ня прыходзілася зварачацца да ўсіх наркаматаў.

Далей, я хачу спыніцца на тарфяных распрацоўках. Ва ўвазе да артыкулу 178 зазначана: «За распрацоўку торфу для продажу бярэцца арэндная плата» і ў артыкуле 179—«аб'яднаным у тарфавыя таварыствы паселішчам, дзе няма тарфавых пакладаў, прыгодных для тэхнічнае распрацоўкі, могуць быць бясплатна даны для задавальненьня гаспадарчых патрэб у торфе паклады на бліжэйшых землях дзяржаўнай зямельнай маемасьці, лясного фонду і на землях працоўнага карыстаньня іншых паселішч. Тут гаворыцца, што калі насельніцтва ня мае торфавых пакладаў, дык яму даецца плошча для распрацоўкі ў тэй мясцовасьці, дзе торфавыя паклады маюцца, і калі насельніцтва неарганізована ў мэліорацыйныя таварыствы, дык за распрацоўку торфу бярэцца арэнда. Тады прыходзіцца хоцькі-ня-хоцькі торф купляць.

Далей, я хацеў спыніцца на тым, што выступаючыя таварышы крыўдзіліся на тое, што агрономы не з такім посьпехам абслугоўваюць хутары, як гэта было-б патрэбна. Гэта сапраўды справядліва. Для таго, каб абслужыць усе асобныя хутары, прыдзецца павялічыць кадр агрономаў, каб на кожную гаспадарку прыпадаў амаль адзін агроном. Але пры пасёлкавай форме зямлякарыстаньня, пры тым штаце агрономаў, які маецца, будзе большая магчымасьць абслужыць насельніцтва ў галіне культурнага гаспадараньня.

Далей, таварышы, тут казалі, што трэба прыстасавацца да пераходу на торфавы апал. Я думаю, што тут вялікіх прыстасаваньняў ня трэба, асабліва ў тых акругах і раёнах, дзе ў сучасны момант адчуваецца крызіс у дравяным апале. Там большасьць насельніцтва ўжо пераходзіць на торфавы апал, і гэта ня так страшна.

Тут таварышы казалі, што пры разьмеркаваньні ў другую чаргу ў тэй ці іншай вёсцы заможныя застаюцца на мясцох. Я лічу, што гэта зняправільнае ўказаньне, што гэта—памылковасьць, што заможныя застаюцца на мясцох, а беднякі высяляюцца. Я лічу, што калі большасьць з усёй вёскі пажадае зьмяніць форму зямлякарыстаньня, дык, зразумела, перавага застаецца за бяднейшым сялянствам, і ня можа быць такога зьявішча, каб заможны застаўся на месцы. Нават у тым выпадку, калі пры ўнутрысяленным разьмеркаваньні заможны застаўся, ён ня мог-бы атрымаць больш зямлі таму, што самая форма зямлякарыстаньня зьмяняецца. Дзеля гэтага я лічу, што гэтыя выступленьні былі няправільнымі, бо такога становішча не магло быць.

Старшыня: Слова мае тав. Козыраў Рыгор.

Тав. Козыраў: Таварышы, я хацеў сказаць некалькі слоў адносна таго, што тав. Прышчэпаў казаў, што неабходна ўзмацніць агітацыю, каб арганізоўваць сялянства ў мэліорацыйныя таварыствы, якія за свой кошт абсушаць балоты. Але, як вядома, мэліорацыйныя таварыствы, як грыбы, растуць, як сказаў тут адзін таварыш. Але гэтыя мэліорацыйныя таварыствы ня маюць кіраўніцтва пры скарыстаньні таго крэдыту, які яны атрымліваюць; ня маюць указаньняў, як праводзіць мэліорацыю і г. д., і досыць часта гэты крэдыт ідзе не па прызначэньні.

Цяпер я хацеў сказаць адносна арганізацыі самых мэліорацыйных таварыстваў. Тут у кодэксе ў разьдзеле «аб таварыствах» ва ўвазе да 227 арт. гаворыцца:

«Калі правядзеньне з посьпехам мэліорацыі патрабуе ўступленьня ў члены мэліорацыйнага таварыства лясьніцтваў, дык апош-

нія ўваходзяць у члены таварыства з спэцыяльнага ў кожным паасобным выпадку дазволу Наркамзему».

З гэтым пунктам, памойму, нельга згадзіцца, таму што прыцягненьне ў гэтыя таварыствы лясьніцтва з асобнага кожны раз дазволу НКЗему вельмі маруднае. Пакуль дойдзе да Наркамзему і пакуль Наркамзем дасьць дазвол,—будзе пэўная валакіта, і само мэліорацыйнае таварыства, у той час, каб хутчэй праводзіць працу па асушцы балота, будзе чакаць; магчыма ў яго ўзьнікнуць некаторыя сумненьні і нарэшце, можа быць, яно і зусім не організуецца.

У мэліорацыйныя таварыствы трэба ўцягнуць шмат вёсак. Я ведаю такое месца, дзе больш дзесятка вёсак трэба ўцягнуць у мэліорацыйныя таварыствы, а таксама і лясьніцтвы.

Цяпер аб самой організацыі. Калі я быў у вёсцы, мне прышлося гутарыць з некаторымі дзядзькамі, і яны кажуць так: «Ці нельга, каб дзяржава ўзяла гэту мэліорацыю на свой кошт, а сялянства праводзіла толькі невялікія канавы па тых магістралях, якія дзяржава зробіць». Між тым ёсьць такое месца, дзе цячэ невялікая рэчка, але на досыць вялікай адлегласьці, па абодвых бакох якой знаходзіцца балота. Мэліорацыйнае таварыства ня мае магчымасьці правесьці працу па асушцы гэтых балот, між тым, як дзяржава бярэ на свой кошт толькі рэгуляваньне вялікіх рэчак, і такія невялікія рэчкі дзяржава на свой кошт не бярэ. Насельніцтва ў такіх выпадках гаворыць: «Наўрад ці пашыраць у даным выпадку працу за кошт дзяржавы ва ўмовах павялічэньня сельскагаспадарчага падатку». Чаму? Таму, што я, напрыклад, жыву пры балоце і ў мяне невялікі кавалак зямлі і маю зямлю неабходна пашырыць, але гэта магчыма толькі за кошт балота. Я павінен уступаць у мэліорацыйнае таварыства, плаціць пай і г. д. і г. д. для таго, каб яно гэты кавалак асушыла. Таму-ж, хто жыве на добрай зямлі, ня трэба ўступаць у мэліорацыйнае таварыства, і ён зьяўляецца нібы сьвятым. Няхай-бы ён уступаў у члены таварыства, тады-б сродкі яго пашырылі-б мэліорацыйны капітал, таварыствы ўзрасьлі-б і хутчэй-бы разьвіваліся мэліорацыйныя таварыствы.

Старшыня: Слова мае тав. Рашотнікаў.

Тав. Рашотнікаў: Усім, таварышы, добра вядома, што ўсякі закон родзіцца ў муках, і калі мы ўспомнім гісторыю работы па складаньні проекту водна-мэліорацыйнага кодэксу, дык ўбачым, што і тут ёсьць вялікая гісторыя. У частковасьці ўсім вядома, што проект НКЗему, які складзены з 400 з лішкам артыкулаў, зялёны. Цяпер-жа разглядаецца прыняты Саўнаркомам проект, які мае амаль што ў два разы менш артыкулаў, але яго можна назваць шэрым. Калі мы ўспомнім некаторыя заўвагі асобных прамоўцаў, дык яны ў сваіх выступленьнях казалі, што, ня гледзячы на тое, што кодэкс досыць доўга прапрацоўваўся, усё-ткі ў ім трапляецца цэлы шэраг няпэўнасьцяй і няўвязак, цэлы шэраг момантаў, якія закранаюць асобныя пытаньні і якія ня зусім ясна ў гэтым законе сформуляваны.

У паасобку гаварылася аб няўвязцы пытаньняў з НКШЗ і іншымі. Мне здаецца, што, разьвязваючы пытаньне водна-мэліорацыйнага кодэксу, трэба будзе спыніцца на адным надзвычайна важным пытаньні,— гэта на пытаньні ці своечасова выдаецца кодэкс? Я дазволю сабе спыніцца на некаторых цыфрах, якія пацьвярджаюць, што далейшае зацягваньне выданьня кодэксу зьяўляецца немэтазгодным. Возьмем выдаткі ў галіне мэліорацыі ў апошні год па дзяржаўнаму бюджэту. Калі мы ў 1924 годзе па дзяржбюджэту мелі каля 40.000 рублёў, калі мы ў 1924-25 годзе на мэліорацыйнае і гідротэхнічнае будаўніцтва мелі каля

400.000 руб., а ў 1925-26 годзе на адну сельска-гаспадарчую тэхніку мелі каля 670.000 руб., то мы бачым колёсальны рост у галіне асыгнаваньняў на мэліорацыйнае будаўніцтва.

Калі мы маем рост асыгнаваньняў у галіне нашых мэліорацыйных прац (у паасобку ў 1926 г. праведзена адных гідротэхнічных работ, лічачы новыя каналы і рэгуляваньне рэк, адлегласьцю каля 70 вёрст з кубатурай каля 6.000 куб. саж.), калі гэты маштаб параўнаць з маштабам іншых вільготных раёнаў Саюзу,—то мы маем заяву старшыні гідротэхнічнага камітэту ў РСФСР на нарадзе ў Горках, што маштаб работы ў тых раёнах значна меншы, чымся ў БССР.

Мэліорацыйныя работы, якія праводзяцца за кошт дзяржавы, зьяўляюцца тымі прыгоднымі вагарамі, якія зацікаўліваюць сялянства ў мэліорацыі, у правядзеньні асушальнай сеткі і далейшым культываваньні.

Што-ж мы маем у галіне работ, якія праводзіць насельніцтва? Калі вы бачылі дыяграмы, выстаўленыя Наркамземам, то вы маглі пераканацца, што мы маем вялікі рост колькасьці таварыстваў: у 1925 г.—425, а на 1-е кастрычніка 1926 г.—617. Павялічваецца плошча таварыстваў, якая дасягае 20.000 з колькасьцю членаў 35.000 Калі мы маем такі вялікі рост таварыстваў, колькасьці членаў і плошчы, то і маштаб работы таксама павялічваецца. Але ўсё-ж такі, ня гледзячы на тое, што маштаб работы павялічваецца, мы ня маем таго тэмпу работ мэліорацыйных таварыстваў, якога можна было-б чакаць.

У паасобку, калі возьмем кошт гідротэхнічных прац, праведзеных таварыствамі ў 1924-25 годзе, то ён выражаўся прыблізна ў 200.000 руб. У 1925-26 г. можна было-б чакаць, здаецца, большага росту гэтых прац, паколькі работы па дзяржаўнаму бюджэту ў нас вырасьлі на 180 проц. у параўнаньні з 1924-25 г., аднак, мы бачым некаторую стабілізацыю ў маштабе работ, якія праводзяцца мэліорацыйнымі таварыствамі. Кошт іхніх прац выразіўся прыблізна ў 200.000 руб.

Калі мы возьмем культурна-тэхнічныя работы, па карчаваньню, узорваньню і культываваньню, то мы бачым, што калі ў 19924-25 годзе агульны кошт гэтых работ дасягаў 100.000 руб., то ў гэтым годзе, згодна прадугледжаных вестак, гэты кошт выражаецца ў 145.000 руб. Хоць тутака мы маем рост амаль у паўтара разы, але ён замалы для таго, каб абхапіць тыя плошчы, якія ўжо падлягаюць мэліорацыйнаму будаўніцтву.

Калі ўзяць цыфры закультываваньня ўсіх падрыхтованых і асушаных плошчаў, то калі мы маем ахопленай засушкай плошчаў па Беларусі каля 85-90 тыс. дзесяцін, то плошча закультываваньня—тая мэта, якую ставяць мэліорацыйныя працы—то яна раўняецца менш 100 дзесяцін. Між аднэй цыфрай—ахопленых асушкай, і другой цыфрай—закультываваных плошчаў, мы маем дыстанцыю вялізнага разьмеру.

Што-ж зьяўляецца прычынай такога нязначнага разьвіцьця работ, у паасобку па культуртэхніцы? З аднаго боку, разумеецца, магчыма, што ў некаторых раёнах яшчэ невыстарчаюча праводзіліся работы па падрыхтоўцы вадапрыёмнікаў. Можа быць было невыстарчаючае тэхнічнае абслугоўваньне, не хапала балотнага інвэнтару, нашы коні не ў стане былі інтэнсыўна праводзіць узорваньне і г. д.—усё гэта так, але апрача гэтых момантаў, быў яшчэ надзвычайна істотны момант, які затрымліваў разьвіцьцё водна мэліорацыйных работ і культуртэхнічных работ,—гэта адсутнасьць водна-мэліорацыйнага законадаўства. Што гэта так,—ёсьць цэлы шэраг даных, атрыманых у выніку абсьледваньня дзейнасьці зямельных органаў рэвізыйнай камісіяй. Наркамзему. Калі наогул у мэліорацыйных таварыствах мы маем усё-ткі пэўны рост па БССР,

дык па некаторых акругах, напрыклад, Магілеўскай, мы маем скарачэньне тэмпу работ, ня гледзячы на тое, што гэты раён зьяўляецца адным з старых раёнаў у мэліорацыйных адносінах. Як паказала абсьледваньне работ мэліорацыйных таварыстваў, тормазам і прычынай памяншэньня тэмпу мэліорацыйных работ у некаторай ступені зьяўляецца адсутнасьць законадаўства, адсутнасьць поўных праўных норм, якія-б рэгулявалі работы мэліорацыйных таварыстваў.

Калі мы жадаем, каб тыя капіталы, якія пакладзены ў рэгуляваньне рэчак і правядзеньне каналаў, акупіліся ў кароткі тэрмін і каб усе гэтыя плошчы былі выкарыстаны насельніцтвам, дык у поўнай меры своечасова гаварыць аб праўных нормах, якія так неабходны для мэліорацыйных таварыстваў. Калі ў нашым мэліорацыйным кодэксе прадугледжваюцца ўсе моманты ў мэліорацыйным будаўніцтве, дык кодэкс і самі абставіны жыцьця вымагаюць, каб работы па рэгуляваньню ўсіх гэтых момантаў закранalі ня толькі мэліорацыйныя ўстановы, але каб яны ўвязваліся з работаю цэлага шэрагу іншых ведамстваў—з ведамствам НКШЗ, ВСНГ, НКУС і г. д. Сапраўды, калі мы возьмем Водна-Мэліорацыйны Кодэкс у тым выглядзе, у якім ён маецца, то яго можна будзе прыраўняць да якой-небудзь воднай арцелі. Возьмем, напрыклад, Прыпяць з яе каналамі—магістральнымі і баковымі, з яе дрэнамі. Я-б прыраўняў дрэны да тых артыкулаў, якія мы маем у кодэксе, баковыя каналы ў гэтым выпадку я-б прыраўняў да разьдзелаў, а магістралі—да часьцей; у канцы канцоў усю водна-асушальную сыстэму можна прыраўняць да кодэксу, паколькі з дрэн вада пападае ў каналы, і ў далейшым гэтая вада коціць сваю ваду па магістральных каналах, якія ўжо ня толькі адводзяць ваду, але і служаць для транспарту і прыводзяць у рух адпаведныя вададзейныя ўстаноўкі, а ўрэшце пападаюць у Прыпяць і служаць для мэтаў транспорту. Мы бачым, што адна кропля вады, адзін і той самы струмень, зусім ня лічачыся з юрыдычнымі межамі, робяць зусім розную работу.

Гэтак і водна-мэліорацыйны кодэкс. Адказваючы на конкрэтныя пытаньні, ён у васобных частках ахапіў асобныя часткі воднае гаспадаркі і ў той-жа самы час дае ўсе падставы для вырашэньня пытаньняў, якія ахопліваюць і распрацоўваюць рацыянальнае выкарыстаньне ўсяе воднае гаспадаркі. Канчаючы сваё выступленьне, павінен яшчэ спыніцца на наступным поглядзе. Калі ў мінулым Беларусь была калыскаю мэліорацыі, бо першыя буйныя асушыцельныя работы распачаліся ў межах Менскае губэрні і ў свой час мелі надзвычайна вялікае разьвіцьцё тут, дык у сучасную пару мэліорацыйныя работы на Беларусі займаюць адно з першых месц сярод усяго будаўніцтва Беларусі. У пытаньнях водна-мэліорацыйнага законадаўства Беларусь ідзе ўперадзе іншых саюзных рэспублік.

Выданьне водна-мэліорацыйнага кодэксу зьяўляецца надзвычайна своечасовым і неабходным для Беларусі. Я думаю, што ёсьць недакладнасьці, маюцца якія-небудзь непаразуменьні ў кодэксе, але яны ўцалку вырашаць усе тыя патрэбы, што ставяцца таварыствамі цэламу шэрагу ўстаноў, і лічу, што дзень прыняцьця водна-мэліорацыйнага кодэксу павінен быць гістарычным днём і, у прыватнасьці, чырвоным днём ня толькі для мэліоратара-тэхніка, але і для мэліоратара-селяніна.

Старшыня: Слова мае тав. Навумчык.

Тав. Навумчык: Таварышы, не даючы аналізу водна-мэліорацыйнага кодэксу трэба сказаць, якое значэньне палітычнае і эканамічнае кодэкс мае ў нашых беларускіх умовах. Пры абгаварэньні на мясцох сялянства гэты кодэкс сустрэла з вялікаю ахвотаю і выказалася аб скарэйшым правядзеньні яго ў жыцьцё, бо гэтым кодэксам раз на заўсёды

кладзецца канец анархіі або вакханаліі, якая мелася ў кіраўніцтве багацьцямі або воднай гаспадаркай і тымі землямі, якія мелі вялікае значэньне. Я хачу спыніцца на тым, аб чым гаварылася на мясцох. У пункце 7 гаворыцца наступнае: «Рэгуляваньне водна-мэліорацыйнае гаспадаркі ажыцьцяўляецца водна-мэліорацыйным камітэтам Наркамзему і воднамэліорацыйнымі камітэтамі акруговых зямельных аддзелаў».

Пры абгаворваньні проекту на мясцох гаварылася аб складзе камітэту, але сёньня ў проекце, зацьверджаным Саўнаркомам, яго няма. Я лічу, таварышы, што такое становішча няправільнае і што гэты пункт павінен быць у кодэксе. Павінна быць паказана, якія прадстаўніцтвы павінны мець гэты камітэт.

На сёнешні дзень мы маем, што НКШЗ кіруе, рэгулюе. Наркамзем, які мае ў сябе пэўныя крыніцы данае вады, таксама рэгулюе, а ў выніку атрымліваецца align рознабой у працы. Гэта не дае магчымасьці правільна рэгуляваць і кіраваць усёй неабходнай работай па адбудове нашае гаспадаркі. Гэты пункт павінен быць пашыран. Калі тав. Сэгаль скажа, што, можа быць, у заканадаўчым палажэньні ня трэба зацьвярджаць пэўны статут, што ў будучыне СНК можа выпусьціць інструкцыю па складаньні данага камітэту, дык я лічу, што даная Сэсія павінна цьвёрда сказаць сваё слова аб утварэньні поўнага прадстаўніцтва ў воднамэліорацыйным кодэксе.

Арт. 30 гаворыць: «На берагох водных цячэньняў, прыгодных для суднаходзтва, выдзяляюцца берагавыя полосы агульнага карыстаньня, шырынёю ў 20 мэтраў, а для сплаўных—10 мэтраў, лічачы ад грэбеню берагу».

Я лічу, што тутака крыху перабольшана. Прыдзецца паменшыць, бо за даны вучастак зямлі трэба будзе компэнсаваць сялян, і сума атрымаецца вялікая, асабліва там, дзе маюцца суднаходныя сплаўныя рэкі, бо большую частку зямель прыдзецца ўзяць і даць компэнсацыі сялянству. Трэба будзе зьмяніць гэты пункт і, замест шырыні 20 мэтраў, напісаць 15 мэтраў, а для сплаўных месц—10 мэтраў, 5 мэтраў. Гэтым будзе захавана і забесьпячэньне ў найменшай норме сялянства.

Далей, некаторыя нараканьні з месц ёсьць супроць тых асоб, якія распачынаюць мэліорацыйныя работы, і дзякуючы гэтаму забясьпечваюцца зямлёй у падвойным разьмеры; такім чынам гаспадарка гэта стане кулацкай. Я лічу гэта няправільным. Трэба залажыць стымуль зацікаўленасьці сялянства, каб прывесьці ў парадак кінутыя землі, якія ёсьць у гэтай мясцовасьці нявыкарыстанымі. Норма, якая ўстанаўляецца ў падвойным разьмеры, прыцягне бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі да аб'яднаньня вытворчых сіл. Сэсіі трэба зьвярнуць увагу на тое, што да гэтае пары была вялікая валакіта, зямельныя непаразуменьні па раёнах і акругах, што даводзіла справы да цэнтр. зямельн. камісіі. Гэтае палажэньне гаворыць аб тым, што ёсьць патрэбны лік жадаючых правесьці мэліорацыйную работу. Ёсьць і такія, якія абсолютна ня хочуць правесьці мэліорацыю, і гэтыя апошнія не даюць магчымасьці па тэхнічных умовах прапусьціць праз свае палі гэтую мэліорацыю. Гэтым пунктам мы кладзем канец тым рознагалосьсям, якія былі і якія часам выходзілі на асабістыя адносіны ў вядомым месцы.

Хачу спыніцца на пункце аб крэдыце. Калі наш урад праз Наркамфін прапушчае сродкі і ў дадатак да гэтага адпускае вялікую колькасьць крэдытаў для мэліорацыйных работ на 15 год з невялічкім процантам, дык гэта правільна. Дакладчык загастрае дадзены пункт. Я лічу, што Сэсія будзе згодна і скажа, што тыя сродкі, якія адпускаюцца на мэліорацыйную работу, павінны быць зьвернуты назад і пушчаны па іншаму кірунку, г. зн. па іншых таварыствах на тыя-ж самыя мэты.

Па Віцебскай акрузе ёсьць такія факты, што старшыня праўленьня, або праўленьне, атрымаўшы сродкі, ідуць у Цэнтральны зямсклад і купляюць брускі, супэрфосфат, усялякія косы і г. д. Гэта значыць, што сродкі, бязумоўна, ідуць не па назначэньню. Я лічу, што тутака павінна быць унесена палажэньне, што калі сродкі адпускаюцца дзяржавай, то яны павінны разглядацца, як доўгатэрміновыя крэдыты. Калі яны выкарыстаны мэліорацыйнымі таварыствамі і іншымі аб'яднаньнямі, то гэтыя сродкі павінны быць у адміністрацыйным парадку неадкладна зьвернуты.

Цяпер таварышы, калі мы ўтвараем цэнтралізаваны апарат тутака пры Наркамземе, то я лічу, што пры раёнах трэба ўтварыць гідротэхнічную службу. Вялікім недахватам у нас зьяўляецца адсутнасьць спэцыялістых, якія-б кіравалі як гідротэхнічным, гэтак і культурным плянамі. Я лічу, што нам бязумоўна трэба ўстанавіць гідротэхнічную службу ў раёне, бо фактычна ў нас мэліорацыйныя аддзяленьні маюць 2-х гідротэхнікаў на 96 таварыстваў. Ці-ж гэтыя 2 гідротэхнікі могуць пасьпяхоўна складаць усе пляны мэліорацыйных таварыстваў? Разумеецца, не.

І апошні момант. Я лічу, што організацыі мэліорацыйных таварыстваў, якія маюць пад сабою грунт, якія стыхійна растуць з кожным днём, ня маюць кіраўніцтва. Што мы бачым? Мы бачым наступнае. Мэліорацыйныя таварыствы кіруюцца непасрэдна зяморганамі. Зяморганы, якія кіруюць усімі галінамі гаспадаркі, ня могуць аддаць многа ўвагі мэліорацыі. Мы гэтае пытаньне абгаворвалі ў сябе на мясцох. Мы ставілі пытаньне: каму-ж, урэшце, перадаць кіраўніцтва гэтымі мэліорацыйнымі таварыствамі? Бязумоўна, кіраваньне імі трэба перадаць Сельсаюзу. Сельсаюз гаворыць, што ў яго няма грошай на ўтрыманьне інструктарскага апарату, спэцыялістых і г. д. Я лічу, што Сэсія павінна сказаць, што данае кіраўніцтва павінна перайсьці ў Сельсаюз, і калі Сельсаюз ня мае сродкаў, то трэба даць ім гэтыя сродкі. Мэліорацыйныя таварыствы па сёнешні дзень правялі працу, якая прадугледжана вытворчай програмай. Але-ж наша задача складаецца ня толькі з асушкі балот, наша задача больш глыбокая: разьвядзеньне завадзкое жывёлы, выхоўваньне маладняка і г. д. і г. д. Мэліорацыйны кодэкс зьяўляецца, як тут было сказана, самым першым і самым галоўным момантам сёнешняга дню. Сялянства цяпер будзе ведаць, што ёсьць цьвёрды закон, які дае магчымасьць будаваць і ўлічваць водныя гаспадаркі, усе ўгодзьдзі. У нашых беларускіх умовах пытаньне мэліорацыі мае вялізнае значэньне, і сялянства з радасьцю спаткала гэты мэліорацыйны кодэкс.

(Голас з месца: вы ў вёсцы ня былі, адкуль вы ведаеце?).

Калі я кажу, значыць я ведаю. Я кажу на аснове заявы сялян, якіх мы запрасілі ў нашу тэхнічную камісію.

Гэты кодэкс раней быў больш шырокі. Цяпер мы яго скарацілі, ён мае толькі 246 артыкулаў. Гэты кодэкс дасьць магчымасьць назаўсёды пакласьці канец той вакханаліі, якую мы мелі, дасьць магчымасьць дакладна ўлічваць, рэгуляваць і адбудоўваць с.-гаспадарку.

Старшыня: Слова мае тав. Умрыхін.

Тав. Умрыхін: Тав. Прышчэпаў і іншыя таварышы, якія выступалі, не давялі, чаму трэба злучыць водны кодэкс з мэліорацыйным. Гэта для мяне засталося няясным. Неабходнасьць мэліорацыйнага кодэксу даведзена. Тав. Прышчэпаў кажа, што мэліорацыйны кодэкс павінен быў спаткацца з водным кодэксам. Гэта так, але-ж ужо ёсьць законадаўства Саюзу ў адносінах да воднай гаспадаркі. Я думаю, што ўводзіць новыя юрыдычныя нормы няма ніякіх падстаў.

(Чарвякоў з месца: будзем разглядаць стары кодэкс).

Ці надышоў момант для перагляду старога законадаўства т. Чарвякоў? У нас асноўнае спрэчнае пытаньне—гэта пытаньне аб сплаўных рэках.

Ці ёсьць падстава ў Беларускай рэспубліцы браць на свае плечы ўсё ўтрыманьне гэтых сплавачных рэк? Няма ніякае падставы. Было-б лепш, калі-б было дадзена Наркамшляху права іх парадкаваць. Гэта было-б больш правільна і больш нормальна. Калі загадваньне сплавачнымі водамі перадаецца Наркамзему, то тыя сродкі, якія адпускаюцца на мэліорацыю, павінны будуць ісьці і на папраўленьне сплавачных рэк, і гэтым будзе пагоршана палажэньне мэліорацыі. Сродкі, якія адпускаюцца на мэліорацыю, ня так вялікі, каб з іх можна было браць і на рэгуляваньне сплавачных рэк.

Я зусім згодзен з тав. Паўлюкевічам, які сказаў, што ў многіх месцах кодэксу ёсьць няўзгодненасьць з саюзным законадаўствам. Я зусім згодзен з тав. Паўлюкевічам, што неабходна было даручыць Прэзыдыуму ЦВК і Саўнаркому яшчэ раз перагледзець і ўдасканаліць гэтыя моманты (голас з месца: Зразумела трэба).

Ну, калі трэба кончыць, то трэба перагледзець. Трэба ўдасканаліць проектаваньне некаторых артыкулаў, якія супярэчаць саюзнаму законадаўству. Альбо трэба зьмяніць некаторыя артыкулы законадаўства.

Старшыня: Слова мае тав. Капееў.

Тав. Капееў: Два словы, таварышы, аб значэньні водна-мэліорацыйнага кодэксу. Тут многія таварышы, якія выступалі, гаварылі, што сяляне спаткалі водна-мэліорацыйны кодэкс з вялікаю ўрачыстасьцю і захапленьнем. Я нядаўна з вёскі, дзе сяляне абгаворвалі пытаньне аб кодэксе, але ніякага захапленьня я ня бачыў. Тое, што надыйшла жыцьцёвая неабходнасьць ўрэгуляваньня мэліорацыі і торфараспрацовак, дык гэта праўда. Да гэтых пор у нас, як некаторыя выказваліся, узьнікалі мэліорацыйныя таварыствы, якія ня мелі ніякага кіраўніцтва, ніякіх законапалажэньняў. Усё зводзілася да таго, каб атрымаць крэдыты. Дзеля гэтага, калі гаварыць, аб тым, што трэба альбо ня трэба дык неабходна напэўна сказаць, што ў гэтым насьпела неабходнасьць і аб гэтым спрэчак ня можа быць.

Я каротка скажу толькі некалькі слоў аб берагавой паласе агульнага карыстаньня. Я запамятаў, ці быў водна-мэліорацыйны кодэкс у стары час пры старым урадзе, але былі правілы ў адносінах да сплаўных і суднаходных рэк, прычым было прыблізна тры сажані берагавой паласы ў сплаўнай рэчцы. Я думаю, што даволі было-б суднаходнай рэчцы мець 10 мэтраў, а сплаўнай 5 мэтраў. Наўрад ці ў будучым будзе больш лясоў, а тыя, якія ёсьць, можна бяз усякае перашкоды сплавіць па гэтых рэчках. Дык я думаю, што берагавую паласу трэба крыху звузіць таму, што калі яна ўстаноўлена ў такім разьмеры, то мы бачым, як ёю можна карыстацца. Арт. 41 кажа, што рака можа служыць таксама для падножнага корму цягавай жывёлы. Якая гэта цягавая жывёла—невядома. Я лічу, што тут трэба ўнесьці большую яснасьць і сказаць, што маецца на ўвазе пад цягавай жывёлай. А то мы ведаем, што ў сялян ёсьць вялікае свавольства. Дзеля гэтага трэба так устанавіць, каб ня было ніякіх сумненьняў, і яона і выразна сказаць, хто мае права карыстацца. Гэты-ж артыкул можна разумець паразнаму. Дзеля гэтага 41 артыкул трэба дапоўніць словамі, што для падножнага корму цягавае жывёлы ў часе суднаходзтва; тады будзе ясна, і гэта папярэдзіць шмат непаразуменьняў.

Потым далей, 50 арт. гаворыць адносна таго, што цераз сплаўныя рэкі і каналы дазваляецца будаваць масты. Мне здаецца, што пасьля гэтага трэба было-б паставіць пункт і не гаварыць таго, што сьледуе за гэтымі словамі, бо гэтая прыбаўка зусім лішняя. Ясна, што на каменных слупох мы ня можам паставіць мосту. Мы ведаем, што чыгунка ў нас слабая і добрага мосту, так як сьлед, ня можа пабудаваць. Між тым, тут у 50 арт. сказана, што на козлах будаваць нельга. Я ведаю, што ў нас напрыклад, на рацэ стаіць мост на козлах і добры мост, і нічога няма страшнага ў гэтым. Калі-ж мы прымем кодэкс, дык гэты мост прыдзецца зьняць, чаму, памойму, другую частку арт. 50-га трэба выкінуць; масты, калі не перашкаджаюць сплаву, няхай і будуць (г а л а с ы: Правільна).

Тав. Прышчэпаў і іншыя таварышы спыняліся асабліва на 186 артыкуле, баючыся новага віду «балотнага кулака». Чым выкліканы гэты артыкул, і што ў падвойным разьмеры можа мець той ці іншы гаспадар? Тав Прышчэпаў у дакладзе ясна сказаў, што мэліорацыйнае таварыства можа мець падвойную норму, асобная гаспадарка—норму ў паўтара разы. Тут-жа ў кодэксе ясна сказана—падвойная норма, але ня сказана, для каго падвойная, а для каго ў паўтара разы. Я думаю, што нам трэба паставіць перад сабою пытаньне аб тым, што нам больш патрэбна. Мы бачым на картах і дыяграмах, колькі ёсьць зямлі выгоднай і нявыгоднай, прычым бачым, што нявыгоднай зямлі вельмі многа,—каля 20 проц. І вось зьяўляецца пытаньне, што больш прыемна: ці кожную вясну слухаць песьні жаб, ці каб гэтыя балоты далі патрэбны харч скаціне, хлеб і г. д. Зразумела, што апошняе бязумоўна больш прыемна, і я думаю, няма чаго баяцца, што вырасьце балотны кулак. З кулаком можна змагацца ўсімі сродкамі, а яны ў нас ёсьць. Калі тыя сродкі, якія ёсьць у больш заможных сялян, у сераднякоў, у кулакоў, яны пусьцяць на гэтыя землі, на іх асушку, дык сяляне, бачачы на прыктыцы, якую карысьць гэта дае, будуць уваходзіць у мэліорацыйныя таварыствы для таго, каб распрацоўваць гэтыя балоты; гэта будзе стымулем для організацыі мэліорацыйных таварыстваў. А то мы маем такую зьяву: балоты ёсьць, зямлі мала, рабочых рук многа, а няма каму апрацоўваць. Некаторыя таварышы, асабліва тав. Тамашэўскі, паказалі, што ня дрэнна было-б, каб усю асушку балот узяла на сябе дзяржава. Зразумела, гэта было-б далёка ня дрэнна, але мае рацыю другі таварыш, які сказаў: «Па дзежцы працягвай ножкі». Было-б добра, каб у дзяржавы былі грошы, але калі іх няма, дык прыходзіцца абмяжоўвацца тымі сродкамі, якія ёсьць у працоўных сялян, і пусьціць іх у ход, каб перватварыць балоты, зрабіць іх лепшымі, так што нічога страшнога ў тэтым няма. Баяцца таго, што ў вынiку існаваньня 186 артыкулу, у нас будуць балотныя кулакі, няма чаго, бо гэтыя балоты, у першую чаргу, даюцца малазямельным і безьзямельным сялянам, так што нічога страшнога няма.

Тав. Нікіфарэнка тут не згаджаўся з тав. Прышчэпавым, які казаў, што нашы балоты даюць вялікую магчымасьць для прыстасаваньня трактара; паказваў асабліва на Мазырскія балоты, дзе можна ўтапіцца, і т. д. Я думаю, што тав. Нікіфарэнка ня так зразумеў тав. Прышчэпава, бо трактар не па балоце ідзе, а ўжо пасьля таго, як мы асушым балота, па сухому месцу. Тав. сяляне, якія выступалі і якім, мабыць, добра вядома гэтая мэліорацыйная работа, гаварылі, што пасьля таго, як пракапаюць па балоце канал, дык нават і асака перастае расьці, і гэта сапраўды так і ёсьць: пасьля таго, як балоты асушаюцца, перастае расьці нават дзікая кіслая трава, але новая трава яшчэ не зьяўляецца,—вось іменна тут і трэба культываваць. Пасьля

таго, калі ўжо асушылі балоты, трэба далей справу рабіць,—разводзіць культуру, і, бязумоўна, будзе магчымасьць працаваць з трактарам.

Старшыня: Слова мае тав. Тоўсьцік.

Тав. Тоўсьцік: Спаткаўшыся на вузкай дарозе, ня хочаш зачапіцца. Так і тут, дзе спаткаешся, там стараешся не зачапіцца. Я думаю, што правільна кажуць, што па водных шляхох трэба ўздоўж каля берагоў пакідаць 10 мэтраў ад вады для агульнага карыстаньня. Гэта табе ня сухі шлях, а людзі кажуць, што з вадою не сапрэшся. Вада так робіць, што з аднаго берагу змывае, а да другога берагу прыкідае. Вось у маім раёне—Дняпро за 5 год прываліў да аднаго берагу сажняў 15 новае зямлі і там вельмі добрая сенажаць цяпер, а ад другога берагу адламаў сажняў 8, і гэта здарылася на працягу 5 год. Так я думаю, што, з гэтай прычыны, гэтыя 10 мэтраў трэба пакінуць, таму што, калі плыт цягнеш, тады далёка ад берагу адыходзіш, каб цягнуць яго.

Тут гаварыў тав. Нікіфарэнка супроць трактараў. Тав Нікіфарэнка супроць трактараў нічога не сказаў, а вось тав. Тамашэўскі сапраўды паказаў, што з трактарамі нічога на балоце ня зробіш. Я думаю, што не для таго-ж трактар і існуе, каб пушчаць яго ў ваду, каб ён там утапіўся. У нас-жа ёсьць і сухія месцы, дзе толькі падавай трактар. Трактар рэч патрэбная, таксама як і малатарня. Вось, напрыклад, з малатарняй гаспадар зарабляе ў дзень 10 р., а там, дзе малатарні няма, дык зьбяруць коняй цягнуць, а нічога не дапамагае, і гаспадар пачухае галаву і скажа: «Вось 15 руб. даў-бы, толькі, каб пашло». Тое самае і з трактарам: зачэпіш—і пойдзе, таму што ў яго наравістасьці няма, куды накіруеш—туды і пацягнеш.

Цяпер наконт торфу. Гэта таксама справа карысная, і ў нас ужо шмат хто з сялян сушылі торф на сваіх гумнах, а другія сяляне бачылі, што торфам добра паліць, так што, нават, як першыя накладуць аж пад стрэхі для сябе, дык другія ўначы раскрадаюць. Так што торф—гэта вялікая палёгка.

Цяпер тут наконт агрономаў гаварылі. Мне здаецца, што агрономы ўжо работу маюць; іншыя агрономы вёрст 18 у дзень пехатой адмерваюць, яны-ж і ў гуртках працуюць і т. д. Дык я думаю, што ў агрономаў досыць работы.

Старшыня: Слова мае тав. Сташэўскі.

Тав. Сташэўскі: Да выданьня водна-мэліорацыйнага кодэксу нашыя ўрадавыя ўстановы падышлі вельмі ўважна, і вось чым тлумачацца тыя пакуты, аб якіх казаў наш мэлиоратар, і перакладка кодэксу з аднае вокладкі—зялёнае—у шэрую. Магчыма, што канчаткова будзе выданы кодэкс у другой—чырвонай—вокладцы, пасьля чаго ён ужо будзе ажыцьцёўлены, але пытаньне пашырэньня і практычнага ажыцьцяўленьня мэліорацыі зусім своечасовае, і Наркамзем павінен узяць на сябе ўвесь той цяжар, які зьвязаны з тым ці іншым адказным мерапрыемствам. У сувязі з неабходным правядзеньнем гэтага жорсткага рэжыму, аб якім казаў т. Прышчэпаў, патрэбна большае папярэдняе тлумачэньне сярод найбольш зацікаўленых мас сялянства, бо гэта выклікае пры ажыцьцяўленьні мэліорацыйных мерапрыемстваў цэлы шэраг усякіх спрэчак, нараканьняў на супрацоўнікаў Наркамзему, якім прыдзецца праводзіць гэтую працу на мясцох. Трэба будзе зрабіць шырокае тлумачэньне самога кодэксу, самога закону. Трэба зрабіць тлумачэньне аб асьцярожных адносінах да ўсіх тых мерапрыемстваў, якія будуць зроблены дзяржавай або таварыствамі, як абарона каналаў, шлюзаў і ўсіх тых мерапрыемстваў, якія будуць зьвязаны з прысьпешаным правядзеньнем мэліорацыі. Гэтае растлу-

мачваньне і агітацыю за хутчэйшае пашырэньне мэліорацыйных работ лёгка будзе зрабіць сярод сялянства ў сувязі з тым, што яно ўжо зразумела неабходнасьць, сваячасовасьць і карысьць водна-мэліорацыйнае работы. Аб гэтым кажуць і выступленьні сялянства на нашай Сэсіі. Значыць, кодэкс лёгка будзе разумець пры тлумачэньні карысьці яго. Селянін хутчэй разумее карысьць жывёлаводзтва. Будучы дзікімі, землі—«смактуны», якія ляжаць паміж ворнай зямлёй, асабліва ў паўночнай частцы нашае рэспублікі, зьяўляюцца крыніцамі заразных хвароб як для жывёлы, як сказаў тав. Козыраў, так і для чалавека ў выглядзе каўтуна і іншых хвароб. Ясна, што гэта добра зразумела сялянству. З прысьпешаным правядзеньнем мэліорацыі мы выграем значныя плошчы, патрэбныя для надзяленьня безьзямельных і малазямельных сялян, прычым мы іх выграем за кошт балот, за кошт дрыгвы, да якіх вельмі цяжка даступіцца. Гэта дапаможа зьнішчыць забабоны, якія затрымліваюць правядзеньне асьветы сярод сялянства. У сувязі з вялікай адпаведнасьцю за гэтыя мерапрыемствы, трэба зазначыць і заўважыць Наркамзему, каб ён пры правядзеньні ў жыцьцё мэліорацыйнага кодэксу адмовіўся ад тэндэнцыі абмежаванасьці, якая была заўважана пры падрыхтоўцы гэтага кодэксу. Трэба Наркамзему ведаць, што ў гэтай справе зацікаўлены ня толькі ён сам і шырокія масы сялянства, але таксама і многа іншых устаноў, як НКШЗ, НКУС, ВСНГ і г. д. З аднаго боку, гэтыя ўстановы могуць дапамагчы яму ў больш пасьпяховым правядзеньні, а з другога боку, яны і самі зацікаўлены ў тым, каб з правядзеньнем мэліорацыйных прац скараціць тыя шляхі, якія прыходзіцца будаваць. У гэтай справе патрэбна вялікая ўвязка як пры апрацоўцы кодэксу, так, асабліва, і пры правядзеньні яго ў жыцьцё, калі Наркамзем пры правядзеньні мерапрыемстваў гэтага кодэксу можа не згадзіцца з установамі, якія кіруюць шляхавым будаўніцтвам. Гэта можа давесьці да лішняй страты сродкаў, якімі карыстаецца і Наркамзем. У значнай меры гэтыя справы, гэтыя пытаньні ўзгоднены, але, мне здаецца, што Наркамзем не павінен абмяжоўвацца тым, што атрымлівае зацьверджаны кодэкс, але кожны паасобны больш-менш важны пункт ён павінен дапоўніць. Кодэкс трэба зацьвердзіць, як аснову, даручыўшы Прэзыдыуму ЦВК канчаткова прарэдагаваць, а Наркамзему—увязаць паасобныя моманты, прагледзеўшы больш-менш уважліва некаторыя пункты гэтага закону. Калі-б прагледзець паасобныя пункты, дык можна знайсьці некаторыя няўвязкі, як напрыклад, калі ўзяць 40 арт. гэтага кодэксу, дык там сказана: «На ўсім працягу берагавой паласы агульнага карыстаньня і сьцежкі дазваляецца конны і пешы рух».

Калі пачнуць па вузкай сьцежцы езьдзіць на конях і калёсах, дык трэба будзе пашырыць дарогу, бо калі будзе сьцежка, дык патопчуць жыта, якое будзе прылягаць да гэтае сьцежкі.

42 арт. кажа наступнае: «Шкода, зробленая сельска-гаспадарчаму карыстаньню берагавой паласой агульнага карыстаньня, пры ажыцьцяўленьні права агульнага карыстаньня вадой, ня сплачваецца». На гэтай аснове можна будзе сустрэць сваркі і г. д. Гэтае пытаньне трэба больш уважліва прагледзець, каб чым хутчэй апрацаваць і выдаць гэты кодэкс.

У сувязі з праробленай Наркомземам работай, трэба думаць, што надыходзячай вясной можна будзе распачаць практычнае ажыцьцяўленьне кодэксу. Мая ўвага скіроўваецца да таго, што Камісарыят Земляробства павінен больш уважна ўвязваць свае мерапрыемствы з мерапрыемствамі іншых устаноў для падрыхтоўкі і ажыцьцяўленьня водна-мэлорацыйнае справы.

Падзел кодэксу на мэліорацыйны і водны зьяўляецца не мэтазгодным. Таварыш Умрыхін не давёў неабходнасьці падзелу яго. Мэліорацыйная справа мае ў нас вялізарнае значэньне, але і водная гаспадарка таксама мае вялікае значэньне. Кіраўніцтва гэтай справай павінна быць передана Наркамзему, прычым ажыцьцяўленьне ўсіх мерапрыемстваў трэба зьвязаць з Народным Камісарыятам Шляхоў Зносін і іншымі наркаматамі.

У гэтай справе можна з'экономіць вялікія сродкі: скароцяцца грунтавыя дарогі; дзякуючы мэліорацыі можна будзе скараціць будаўніцтва гэтых дарог на дзесяткі вёрст. Там, дзе трэба было пракладаць масты, як у Мазыршчыне, на працягу звыш 3-х вёрст, наплаўныя масты, на што трэба было траціць мільёны—з правядзеньнем мэліорацыі пракладаць гэтых мастоў ужо ня прыдзецца. І калі гэтыя мільён, які трэба было патраціць на пабудаваньне мастоў, кінуць на мэліорацыйныя работы, дык ясна, што ад гэтага выграе і Народны Камісарыят Шляхоў Зносін, і Народны Камісарыят Земляробства, і сялянства, і дзяржава ўцалку. Мы таксама здолеем скарыстаць непатрэбныя для сялянства матар'ялы, як, напрыклад, каменьні, якімі закіданы палеткі сялян. Калі сяляне сеюць канюшыну, не сабраўшы з поля каменьня, дык потым, калі яе трэба касіць, ламаюць не адну касу аб гэтыя каменьні. Гэты непатрэбны сялянам матар'ял можа быць карысны нам для папраўкі дарог і г. д.

Тав. Т ы ш к о: У мэліорацыйнай рабоце да гэтага часу асабліва мэліорацыйным таварыствам прыходзілася сустракаць на сваім шляху многа перашкод, галоўным чынам, з-за таго, што да гэтага часу няма юрыдычнага абаснаваньня гэтай работы. Пытаньне зямляўпарадкаваньня ўмяркована з выданьнем адзінага зямельнага кодэксу. Гэтае пытаньне ўжо не зьяўляецца спрэчным па ўсёй тэрыторыі Беларускай Рэспублікі. Пытаньне зямляупарадкаваньня і пытаньне мэліорацыі так шчыльна між сабой пераплецены, што ў нашай практычнай рабоце нельга было не паставіць пытаньня аб прысьпешаньні мэліорацыйнага законадаўства, адсутнасьць якога парашкаджала весьці работу па асушцы забалочаных абшараў у нашай Рэспубліцы і найхутчэйшаму ўцягненьню іх у гаспадарчае карыстаньне. Мэліорацыйныя таварыствы не маглі разьвінуць шырака сваёй работы таму, што ня ведалі аб характары зямлякарыстаньня, якое будзе зьдзяйсьняцца пасьля асушкі.

Мы маем, напрыклад, рэчкі Ухлясьць і Усьвіж і Буг, дзе зроблены мэліорацыйныя работы, але экономічнай і практычнай работы яшчэ не распачыналі. Возьмем, напрыклад, нізіны рэчкі Ухлясці ў Магілеўскай акрузе. Там у 1923 г. распачата ўжо рэгуляваньне гэтай рэчкі, а да гэтага часу амаль няма культурнай плошчы. З гэтай прычыны на долю асобных мэліорацыйных таварыстваў у некаторых месцах прыпадае да 70 дзес. забалочанай плошчы. Аднаму гаспадару, ня маючы крэдыту, трудна зрабіць асушку такога балота. З другога боку, мы маем і такіх паасобных членаў мэліорацыйных таварыстваў, якія пры наліччы рабочай сілы ў сваёй сям'і маюць за сабою толькі невялікую плошчу. Яны-б змаглі прывесьці ў культурны стан асушаныя плошчы, але яны не пераканаты ў тым, што пры зямляўпарадкаваньні ці пры пераразьмеркаваньні гэтых забалочаных зямель, якія яны атрымалі з запаснага фонду, ня будуць ад іх адабраны. Калі-б зямлякарыстаньне не ўмяркоўвалася юрыдычнымі нормамі, тэта перашкаджала-б рабоце мэліорацыйных таварыстваў. Зразумела, у проекце, які быў высунуты Камісарыятам Земляробства, перапрацована за-

конадаўчымі камісіямі і прыняты Саўнаркомам,—могуць быць некаторыя няўлічэньні, могуць быць некаторыя недакладнасьці.

Але ў асноўным проект, які цяпер абгаворваецца, дае выходныя пункты Наркамзему для таго, каб потым пасьпешна рэгуляваць і накіроўваць дзейнасьць мэліорацыйных таварыстваў, гэта з аднаго боку, а з другога—упэўнена накіроўваць дзяржаўна-мэліорацыйныя работы, з тым, каб іх максымальна маглі выкарыстоўваць мэліорацыйныя таварыствы ў сваёй практычнай дзейнасьці.

Таму трэба будзе Наркамзему зьвярнуць большую ўвагу пры прапрацоўцы тых інструкцый, правіл і дадаткаў, якія будуць выходзіць на падставе абгаварваемага сёньня кодэксу, палажэньні якога, як быццам, ня сустракаюць супярэчаньняў з боку выступаўшых за выключэньнем 2-х таварышоў Умрыхіна і Паўлюкевіча. Супярэчаньні першага, якія зводзяцца да таго, што ня трэба мець аднае воднае гаспадаркі, рэгуляваць яе з цэнтру, рабіць рэгуляваньне воднага рэжыму аднымі рукамі.

Мы лічым, што ў нашай рэспубліцы пераважна водныя артэрыі зьяўляюцца водапрыёмнікамі, якія ўбіраюць 2.000.000 дзесяцін забалочанай зямлі. І таму рэгуляваньне гэтых водных артэрый павінна быць строга ўдакладнена незалежна ад таго, ці гэта робіцца ў інтарэсах транспорту, ці ў інтарэсах паніжэньня воднага ўзроўню з тым, каб асушыць і закультываваць пэўную плошчу зямлі. Таму проект і прадугледжвае іменна дзейнасьць рэгуляваньня воднага рэжыму з тым, каб унікнуць недапасаванага павышэньня альбо паніжэньня вады, а, значыцца, дапамогі альбо перашкоды ў агульным разьвіцьці і адраджэньні нашай сельскай гаспадаркі. Водна-мэліорацыйны камітэт пры НКЗ будзе акурат уключаць у свой склад прадстаўнікоў ведамстваў, якія і будуць вырашаць у ім рэгуляваньне воднага рэжыму і рабіць так, каб не цярпеў ні адзін від водакарыстаньня; не цярпела зацікаўленасьць тае альбо іншае галіны гаспадарчага жыцьця рэспублікі. З гэтага боку, акурат кодэкс зьяўляецца кодэксам, які ўсё абхоплівае, таму, што непасрэднае кіраўніцтва над непасрэдным выкарыстаньнем вады ў мэтах выкарыстаньня яе для транспорту, аховы здароўя, прамысловасьці, акурат і належыць гэтым ведамствам.

Словам, водна-мэліорацыйны закон калі і будзе перададзены для канчатковага зацьверджаньня Прэзыдыуму ЦВК, дык ён павінен увайсьці: для ўжываньня магчыма скарэй, з тым, каб да лета тая ўжо даволі вялікая армія мэліоратараў, якая займаецца справаю ўцягненьня ў сельска-гаспадарчае карыстаньне значнай плошчы зямлі, мела-б магчымасьць грунтаваць сваю работу на моцных падставах, чаго да гэтага часу гэтая армія зрабіць не магла ў зьвязку з тым, што водна-мэліорацыйнага законадаўства ў нас ня было. І вось, гэтая неабходнасьць штурхае на тое, каб прымешваць выданьне водна-мэліорацыйнага закону і зрабіць яго жыцьцёвым, дапасаваным да нашых мясцовых умоў БССР, і не ўтварыць такога водна-мэліорацыйнага закону, які мелі ў мінулым, як закон 1902 г., што распрацоўваўся па некальгі дзесяткаў гадоў і ўжываўся ў працягу 11 г. толькі адзін раз. Гэта добры прыклад, і ён штурхае нас на тое, каб мы не распрацоўвалі законаў у цішыні габінэтаў, а зрабілі яго вядомым для абгаварэньня шырокімі народнымі масамі, уцягваючы да распрацоўкі шырокія слаі сялянства.

Старшыня: Слова мае тав. Шаблюк.

Тав. Шаблюк: Тут таварышы адзначалі сваячасовасьць выданьня гэтага кодэксу і неабходнасьць гэтага кодэксу. Гэта, бязумоўна, неабходна. Я лічу, што ў далейшым ня можа быць і спрэчак аб

выданьні новага кодэксу. Могуць быць толькі папраўкі. Можа быць у стасунку да жыцьця прыдзецца адшліфаваць яго, але сам кодэкс, памойму, абхапляе ўсё. Ім прадугледжана ўсё тое, што неабходна ў жыцьці з ліквідацыяй некаторага зямельнага голаду шляхам мэліорацыі нашай зямлі.

Я маю толькі пару ўваг да гэтага кодэксу. Але перш чым спыніцца на іх, я хачу адзначыць вось што: 3-я Сэсія ЦВК даручыла гэты кодэкс абгаварыць на шырокіх сялянскіх сходах, каб сялянства ўдзельнічала ў гэтым кодэксе, уносіла папраўкі і г. д. Некаторыя таварышы гаварылі, што кодэкс разглядаўся на шырокіх сходах сялян. У такім выпадку гэтыя раёны зьяўляюцца больш шчасьлівымі, чым мы, але ў нас было так: строга прапанавалі, каб абгаварыць кодэкс у Райвыканкомах да 7-га студзеня. Але, зразумела, за 5-6 дзён абгаварыць гэты кодэкс ня было магчымасьці. Загадчык Зямельнага пададдзелу папацеў над гэтым кодэксам, потым выбраў адзін артыкул, каб як небудзь адчапіцца, і ўнес у прэзыдыум, ну і прэзыдыум, зразумела, прыняў. Я лічу, што гэта хаця і не такая важная справа, але ўсё такі яе трэба было адзначыць.

Што датычыць самаго кодэксу, дык ў адносінах воднай гаспадаркі ён ніякіх супярэчнасьцяй не спатыкае, за выключэньнем пытыньня аб берагавой лініі. Тут паказваецца, што гэтая лінія ўстанаўляецца ў 10 мэтраў. Я-б лічыў, што яе ня трэба ўстанаўляць у такіх мясцох, дзе няма ні сплаву, ні прыстаняй—у дробных рэчак. Зразумела, аб берагавой лініі трэба сказаць для каналаў, дзе ёсьць шлюзы і г. д., якія трэба ахоўваць, але там, дзе праходзіць звычайная рэчка,—дзеля чаго там гэтая паласа патрэбна. Няхай сабе селянін карыстаецца там сваёю сенажацьцю.

Пра арт. 7 некаторыя таварышы ўжо гаварылі. Я лічу, што тут трэба дадаць, што рэгуляваньне водна-мэліорацыйнай гаспадаркі ажыцьцяўляецца водна-мэліорацыйным камітэтам Наркамзему, акруговымі водна-мэліорацыйнымі камітэтамі і таксама яшчэ і водна-мэлорацыйнымі камітэтамі пры райземаддзелах. Я скажу аб тым, як гэтыя мэліорацыйныя таварыствы ў нас абхоплены. Фактычна яны зусім не ахоплены. Яны дзесь рэгіструюцца пры Наркамземе альбо АКРЗУ, раён імі непасрэдна ня кіруе і зусім ня ў курсе спраў іх работы. У нас, напрыклад, было такое сьмяхоцьце: мы злажылі справаздачу РВК'а і нічога ня ўключылі ў справаздачы па водна-мэліорацыйных таварыствах, якія існавалі на тэрыторыі раёну. Мы ведалі аб тым, што ў нас ёсьць 3-4 мэліорацыйных таварыствы, але што яны робяць,—нібыта нічога. Толькі ўжо потым даведаліся, што яны ўсё такі прачысьцілі на працягу вярсты рэчку і крыху пракапалі канавы.

Значыцца, калі ў раёне будзе такі камітэт, які таксама будзе прымаць удзел ў рэгуляваньні, дык тады такіх выпадкаў у нас ужо ня будзе.

Цяпер адносна арт. 186; я думаю, што норму ўсё-ткі трэба рэгуляваць на месцы і ў залежнасьці ад гаспадаркі. Ня кожнай гаспадарцы можна даць падвойную норму, таму што ёсьць магутныя гаспадаркі, якім можа і ня цяжка будзе мэліараваць яшчэ столькі-ж, колькі ў іх ёсьць, а можа гэтага і ня трэба даваць; а з другога боку слабай гаспадарцы можа нават трэба даць і больш нормы.

Цяпер аб росьце нашых таварыстваў. Можа яны і добра растуць, але ў мяне ўсё такі ёсьць небясьпека за гэтыя таварыствы. У нашага сялянства ёсьць ініцыятыва і імкненьне арганізавацца ў таварыствы, таму што яго беднасьць на гэтае штурхае. Але назіраюцца і такія факты, што селянін імкнецца і выяўляе ініцыятыву, але ён не атрым-

лівае падтрыманьня і кіраўніцтва ў гэтай рабоце з боку дзяржавы, і ініцыятыва яго прападае дарма, справа развальваецца, а другі раз яе ўжо і цяжка арганізаваць. У нас ёсьць такі выпадак: арганізавалі таварыства, прыехаў тэхнік, правёў нейкую работу, штось там вымераў, а пасьля гэтага вось ужо на працягу двух год ніхто да гэтага таварыства ня прыходзіць. Усё-ж такі гэты тэхнік зрабіў нейкую работу, страціў грошы, а цяпер можа ўся гэтая справа прападзе, і ў селяніна паступова апускаюцца рукі. У гэтым годзе яны спрабавалі засеяць адну невялікую дзялянку, штучна яе ўгнаілі, вынікі вышлі, нібыта, і добрыя, але калі яшчэ год пройдзе і ніхто да іх ня прыедзе, дык у іх, напэўне, рукі апусьцяцца.

Таму трэба дабіцца таго, каб у кожным раёне быў абавязкова культуртэхнік і, я думаю, што ўдзел сялянства ў мэліорацыйных работах нават павялічваецца, дзеля таго, што селянін прыложыць і сваю працу і сваю ініцыятыву. Але гэта будзе толькі тады, калі ён убачыць, што ў яго запраўды ёсьць кіраўніцтва. Зразумела, мы маем вельмі вялікі рост гэтых таварыстваў. З 13 таварыстваў ў 1922 г. з лікам членаў 449 да 617 таварыстваў ў 1926 г. з лікам членаў 35.871. Рост добры. Але я зноў падкрэсьліваю, што трэба ўжыць захады, каб гэта ініцыятыва сялянства не прападала, а тады яго ўжо цяжка будзе другі раз разварушыць. І каб гэтая ініцыятыва не прапала, трэба, каб селянін адчуваў кіраўніцтва гэтаю работаю з боку дзяржавы.

Старшыня: Слова мае т. Гарбачоў.

Тав. Гарбачоў: Я таксама хачу адзначыць, што, мабыць, ня зусім добра зрабілі, калі паслалі на абгаварэньне шырокіх сялянскіх мас і нізавых савецкіх органаў проект Наркомзема, а тут абгаворваецца проект, прыняты Саўнаркомам. Сяляне сям-там гэты проект НКЗ ужо абгаворвалі, разглядалі артыкулы, запісвалі ў сябе некаторыя з іх ў сваіх кніжках, а вось цяпер, калі яны атрымаюць другі кодэкс, дык ў іх выйдзе блытаніна.

Цяпер па існасьці самога закону. Зразумела, што тут усе таварышы, казалі, што ён, быццам, ўпоўне больш-менш задавальняюча абхапляе ўсе моманты, як палітычнага, галоўным чынам, зьместу, так і эканамічнага боку. Я з гэтым ня зусім згодзен таму, што ён мае цэлы шэраг недахватаў; на некаторых з іх я і змушаны буду спыніцца. Папершае, таварышы, я ня бачу ніякай патрэбы, а, наадварот, лічу, што гэта зусім непатрэбна, як напрыклад, аддаваць пад кіраўніцтва НКЗему суднаходныя рэчкі, сплаўныя каналы, бо тут т. Шычко спрабаваў даць грунт гэтаму моманту,, але выходзіць ня што іншае, як тое, што ў рэчцы тая-ж вада, якая і ў балоце, якую трэба пусьціць—мокрая. Калі суднаходныя рэкі альбо сплаўныя каналы, будуць знаходзіцца ў эксплёатацыі НКШЗ, ён і будзе ўзмацняць берагі, і паглыбляць рэчкі і каналы і рабіць усялякую работу; мне здаецца, што НКШЗ ніколі ня будзе пярэчыць таму, каб у гэтыя рэчкі альбо каналы НКЗем уліў свае чырвоныя, жоўтыя воды з балот, каб вада зрабілася блакітнай. Значыць, у іншых пунктах сутыканьня на гэтым месцы, з майго пункту гледжаньня, няма.

Адносна паласы гарадзкога карыстаньня каля сплаўных суднаходных рэчак. Мне здаецца, што трэба пакінуць у такім памеры, як тут адзначана ў проекце, і вось чаму: напрыклад, у нас, у Полаччыне, робяць вялікія лясныя распрацоўкі; па ўсіх рэчках сплаўных сплаўляецца лес, але выходзіць вельмі шмат цяганіны з сялянствам з тае прычыны, што ня высьветлена, хто і колькі можа дзе хадзіць і дзе не хадзіць па краі. Былі выпадкі, калі біліся за тое, што «ты не тапчы



маёй сенажаці». Што значыць 5 мэтраў, калі ўсё роўна адтопчуць 10 або болей.

Я хачу спыніцца яшчэ на адным моманце. Ня трэба было-б так скупіцца, што лесапільні, дзе будуць будавацца вадакарыстальныя мерапрыемствы, могуць атрымаць 4 дзесяціны, а пад млын можна атрымаць адну дзесяціну—ня болей. Чым гэта выклікана? Чаму так скупа будуць давацца землі пад гэтыя мерапрыемствы, не зразумела (Ш ы ч к о з м е с ц а: Паглядзеце ўвагу). На ўвазе я спынюся, але пасьля.

Я хачу спыніцца на момантах, якія маюць прынцыповае значэньне: артыкул 152—227, 235. Тут, памойму, паміж імі супярэчнасьці наступнага зьместу. Тут гаворыцца, што адбіраецца землі ад тых, якія ня хочуць праводзіць мэліорацыі. У артыкуле 227 гаворыцца, што ў некаторых выпадках можна прымусова ўцягваць людзей у мэліорацыйныя таварыствы. Артыкул 235 гаворыць, што з мэліорацыйных таварystваў дазваляецца вольны выхад. Выклікаецца пытаньне,— на што нам насельніцтва ўцягваць сёньне, калі заўтра яму дазваляецца зусім вольна выйсьці з гэтага таварыства. Я лічу, што тут даволі таго, каб той, хто ня хоча прымаць удзелу ў мэліорацыйных таварыствах, пасьля таго, калі балота ці зямля, якая зарасла лазой, мэліорыравана і стала удобнай, павінен яе траціць. З гэтай прычыны не патрэбен артыкул, які гаворыць аб прымусовым уцягваньні людзей у мэліорацыйнае таварыства. Я лічу, што прынцып мэліорацыйных таварystваў павінен астацца як прынцып дабравольнай організацыі коопэрыраваньня. Калі мы прымусім да мэліорацыі, дык, я лічу, што тут нічога ня выйграем.

Я хачу спыніцца на пытаньні аб нормах, якія сялянам даюцца за правядзеньне мэліорацыі. Я лічу, што сам тав. Прышчэпаў іх зьменшыў пасьля таго, як ён на мінулаў Сэсіі сьмела і рашуча абараняў бяз усякіх тлумачэньняў тое палажэньне, што можа любы грамадзянін, селянін атрымаць падвойную максымальную норму, калі ён тольні захоча, калі будзе браць балота для мэліорыраваньня. Цяпер ён трохі зьменшыў і гаворыць, што бедняку і серадняку дазваляецца атрымаць падвойную максымальную норму, а кулаку хопіць нормы і ў паўтара разы, а не падвойнай. Трэба растлумачыць гэтае палажэньне. Гэты артыкул мае цэлы шэраг пытаньняў, якія выклікаюць на мясцох непаразуменьні. Напр., што значыць бедняку ці серадняку ў Полаччыне дазволіць з балота атрымаць падвойную максымальную норму, скажам 12-13 дзесяцін? Бедняку і серадняку можна будзе даваць да яго 3-х дзесяцін, з якімі ён уступае, як член мэліорацыйнага таварыства, 21 дзесяціну да падвойнай нормы. Патрабаваць гэту падвойную норму ён мае права таму, што гэта дапускаецца законам і ён бядняк. Як будзе далей? Што ён будзе рабіць у тым выпадку, калі мы павінны будзем паставіць пытаньне аб тым, што кожную плошчу зямлі таму ці іншаму таварыству мы павінны адвесьці, дык які тады мы прынцып паложым у падставу? Я лічу, што мы павінны ўнесьці спэцыяльны артыкул па гэтым пытаньні.

У нас ёсьць балотныя масывы ў дзьве з паловаю тысячы дзесяцін, на якіх організавана 16 мэліорацыйных таварystваў. Гэтыя таварыствы захапілі зямлю па ўрочышчах; такім чынам, якая вёска далей забяжыць і паставіць калок, тая і карыстаецца зямлёй. І сяляне лічаць такое зямляўпарадкаваньне правільным і ня хочуць аддаваць захопленае зямлі. Як мы будзем дзяліць гэтую плошчу з балотнага дзяржаўнага фонду? Я тут зраблю разьмежаваньні. Адна справа, калі гутарка ідзе аб землях працоўнага зямлякарыстаньня, аб землях «кінутых», якія валяюцца невялікімі кавалкамі, і іншая справа, калі гутарка ідзе

аб вялікіх зямельных фондах, тарфяных залежах і балотах, якія маюцца. Ці ёсьць у нашым кодэксе прынцып, па якім мы павінны адводзіць плошчы гэтых балот асобным мэліорацыйным таварыствам? Было-б добра, калі-б сялянства карысталася гэтымі балотамі колектыўным шляхам: разам асушваць, разам сеяць, разам капаць, а потым разьмяркоўваць ураджай па ліку едакоў альбо па ліку галоў быдла. Але ў сучасную пару гэтага яшчэ не назіраецца і, напэўна, пройдзе яшчэ гадоў 10, пакуль гэта будзе ажыцьцёўлена. Я лічу, што нам ў нашым кодэксе трэба дабавіць такі артыкул, які-б рэгуляваў гэты момант, які-б паказваў, па якому прынцыпу трэба разьмяркоўваць зямлю. Да нас прыяжджалі прадстаўнікі мэліорацыйных таварыстваў і пыталіся: «Як нам дзяліць тую зямлю, якую мы робім прыгоднаю»— ці выходзіць з ліку едакоў ці галоў быдла, альбо якім-небудзь іншым спосабам,—мы ня ведаем. У нас у гэтым пытаньні вялікія супярэчнасьці. Я лічу, што наш кодэкс павінен гэтае пытаньне вырашыць.

Цяпер, таварышы, аб падвойнай норме. Гэты прынцып агулам мы павінны зьнішчыць. Такога моманту мы дапусьціць ня можам. Сяляне пераважна яднаюцца ў мэліорацыйныя таварыствы для таго, каб захапіць зямлю. Яны сабе думаюць, што замацуюць за сабою гэтыя балоты і будуць касіць асаку, а там будзе відно. Характэрнымі, таварышы, зьяўляюцца наступныя лічбы: з 85.000 асушаных дзесяцін закультываваных толькі 100. Гэта—сьмешнае становішча. Чым гэта тлумачыцца? Тым, што сяляне ідуць у мэліорацыйныя таварыствы для таго, каб выкарыстаць увесь фонд. Яны ўтвараюць таварыствы, а самі гусей пасуць, жывёлу гадуюць. Дзеля гэтага нельга казаць так, як некаторыя таварышы тутака казалі. Вы прыяжджаеце на вёску, дзе ёсьць мэліорацыйныя таварыствы. Паслухайце, што там гавораць аб гэтых таварыствах. Паяжджайце ў суседнюю вёску, дзе мэліорацыя яшчэ не праведзена, дзе толькі організуюцца мэліорацыйныя таварыствы, і вы пачуеце, што там гавораць аб мэліорацыі.

Такім чынам стыхійны рост мэліорацыйных таварыстваў тлумачыцца выключна тым, што сяляне хочуць замацаваць за сабою балоты. Асабліва моцны ўплыў у гэтым сэнсе робяць заможныя сяляне. Вось, таварышы, як трэба адносіцца да некаторых момантаў. Гэтыя таварыствы не адказваюць складаным задачам, трэба ўнесьці ў наш кодэкс адпаведныя параграфы, якія рэгулююць разьмеркаваньне зямлі. Сьмешна нават, што мы ня можам знайсьці закону, які-б цьвёрда паказваў сялянам той прынцып, па якому яны павінны дзяліць зямлю.

Цяпер адносна рыбы. У нас ёсьць адзін рыбалоў. Гэты рыбалоў купляе цэглу, каб будаваць фундамант фабрыкі. Ён гэта робіць на аснове першага артыкулу, у якім сказана, што ўсякі грамадзянін мае права лавіць рыбу, прадаваць яе і будаваць прамысловыя прадпрыемствы і г. д.; так, што тутака проста іронізуюць людзі над гэтай справай. А папрабуйце перакана́ць сялян, што гэты артыкул мае гэтае значэньне, а ня іншае.

Тав. Чарвякоў: Цяпер 7½ гадзін. Дакладчык просіць для заключнага слова 20 мінут. У спрэчках запісана 20 чалавек. Можа быць, яшчэ 10 мінут можна пагаварыць, па 5 мінут кожнаму, а потым перайсьці да заключнага слова?

Хто за тое, каб працягнуць спрэчкі?—Мала.

Хто за тое, каб спыніць?—Большасьць.

Спрэчкі спыняюцца. Заключнае слова мае тав. Прышчэпаў.

Тав. Прышчэпаў: У спрэчках выявіўся вельмі цікавы матар'ял, цікавыя думкі, якія запісаны, і разумеецца, што мы пры канчатковай распрацоўцы Водна-Мэліорацыйнага Кодэксу, увесь гэты матар'ял і

думкі выкарыстаем і прымем іх пад увагу для таго, каб у тых ці іншых артыкулах кодэксу правесьці тыя ці іншыя зьмены. Памойму, спрэчкі дадуць вельмі багаты матар'ял, на аснове якога можна будзе лепей канчаткова распрацаваць Водна-Мэліорацыйны Кодэкс.

Я спынюся толькі на некаторых пытаньнях, якія выкліканы, пэўна, непаразуменьнем. Тутака казалі: яны будуць праводзіць узворваньне на балотах, калі там і на лодцы нельга праехаць? Я ўжо казаў у пачатку, што сьпярша будзе праведзена асушка балота, а пасьля асушкі; калі трэба будзе перайсьці да ўзворваньня,—тады, замест таго, каб узворваньне праводзіць коньмі, гэтае ўзворваньне карысьней будзе з пагляду дзяржаўнага праводзіць трактарамі. Я прыводзіў, як прыклад, досьлед мінулага году. Паводле нашых даных, узворваньне аднэй дзесяціны коньмі каштуе 70-80 рублёў, тымчасам як узворваньне трактарамі шатуе 15-16 руб. Гэта першае. Другое—трактарам можна куды больш узараць, чымся коньмі. Такім чынам, культура балот дае вялікі экономічны эфэкт, і мне думаецца (я ўжо аб гэтым казаў), што ў бліжэйшыя гады, калі мы не пярэйдзем на трактарнае ўзворваньне на асушаных балотах, дык культура балот будзе затрымлівацца. У нас будзе такое становішча, калі асушана каля 90 тысяч дзес., а культуртэхнічныя мерапрыемствы праведзены на 100 дзесяцінах. Разыходжаньне вялікае, як падкрэсьлівалі таварышы. І само сабой эразумела, што трэба пашырыць культурна-тэхнічныя мерапрыемствы—дрэнажам, раскарчоўкай зямлі, выразкай купін і т. д., трэба скарыстаць трактары. Трактар—вялікая сіла ў культурнатэхнічных мерапрыемствах. На трактарах мы па культуры балот пойдзем уперад.

Тут шмат якія таварышы не зразумелі прынцыпу, на падставе якога будзе карыстацца наш селянін торфам. У законе праведзены, прыблізна, прынцып, што ўсе торфавыя паклады БССР зьяўляюцца дзяржаўнай зямельнай маёмасьцю і знаходзяцца ў беспасрэдным веданьні кіраўніцтва Наркамзему. А сялянам будзе давацца торф толькі для іх гаспадарчых патрэб дарэмна. Так што і той торф, які знаходзіцца на землях працоўнага карыстаньня, таксама зьяўляецца дзяржаўным торфам, але сялянам будзе дазволена гэтым торфам карыстацца толькі для сваіх сельска-гаспадарчых патрэб. Калі-ж сяляне захочуць гэты торф скарыстаць для продажу, дык у такім выпадку з іх будзе брацца арэнда. Вось, прыблізна, прынцып, на падставе якога будзе праводзіцца скарыстаньне торфам для сялян.

Невялікія спрэчкі выклікалі артыкулы кодэксу, якія прадугледжваюць аб'яднаньне ўсіх водных гаспадарак. Вось па гэтых артыкулах таварышы зазначалі тое, што нібы-то гэтым кодэксам Наркамзем бярэ на сябе шырокія і непатрэбныя функцыі, якія належаць НКШЗ. Я павінен даць справку, што ніхто на суднаходныя рэчкі не прэтэндаваў і не прэтэндуе. Гэтыя рэчкі зьяўляюцца водамі асаблівага прызначэньня і перадаюцца ў беспасрэднае карыстаньне НКШЗ. Дзеля таго тут жадных спрэчак быць ня можа; тут проста непаразуменьне. Тав. Умрыхін крычаў, што яму мала ўлады, тымчасам як гэтае ўлады ніхто не зьмяншаў: якая ўлада была, такая і засталася. Так што з боку тав. Умрыхіна і іншых, якія яго падтрымлівалі, гэта проста непаразуменьне.

Тут ёсьць толькі спрэчкі прынцыповага характару—гэта адносна сплаўных рэчак і каналаў. Гэта спрэчнае пытаньне; мы лічым, што ўсе гэтыя сплаўныя рэчкі і каналы павінны знаходзіцца пад кіраўніцтвам Наркамзему. Тав. Умрыхін хоча нам зрабіць мядзьвежжу паслугу і гаворыць, што калі гэтыя сплаўныя рэчкі і каналы будуць знаходзіцца ў Наркамземе, тады прыдзецца тыя сродкі, якія прызначаны на

правядзеньне мэліорацыі, траціць на організацыю сплаўных рэчак і каналаў. Тав. Умрыхін, я павінен даць справку, што за сплаў лесу бярэцца спэцыяльная плата, за кошт якое і будзе рабіцца рэмонт гэтых самых каналаў і рэчак. Так што гэта на нашых мэліорацыйных сродках ані не адаб'ецца. Падругое, усе рэчкі і каналы організуюцца фактычна Наркамземам, калі праводзяцца тыя ці іншыя вадапрыёмнікі. Такім чынам, мы, організоўваючы сплаўныя магістралі, павінны глядзець за імі, рэмонтаваць, каб яны не разбураліся, і, калі будуем і рэмонтуем, мы павінны гэтыя сплаўныя каналы і рэчкі перадаваць Наркамзему. Скажэце, калі ласка, дзе і хто можа на гэта згадзіцца і якраз вы, т. Умрыхін, калі гэтыя сплаўныя рэкі і каналы, якія быццам знаходзяцца пад вашым ведамам, вы палец аб палец ня ўдарылі да гэтага часу, каб што-небудзь зрабіць, і калі яны ў вас будуць знаходзіцца, дык яны і далей будуць разбурацца, а ўсе мерапрыемствы, якія мы праводзім, будуць зрывацца. Таму я буду рашуча настойваць на тым, каб усе гэтыя рэкі і каналы, як гэта і прадугледжвае наш кодэкс, знаходзіліся пад ведамам Наркамзему.

Цяпер адносна мэліорацыйных таварыстваў: яны пашыраюцца, як ужо падкрэсьлілі многія таварышы, і досыць значна растуць. Сялянства штогодна тысячамі яднаецца ў мэліорацыйныя таварыствы. Але нельга сказаць, што ў нас тут усё добра. Я згодзен з таварышамі ў тым, што ў нас няма да гэтага часу патрэбнага кіраўніцтва гэтымі дзесяткамі тысяч сялян, аб'яднаных у гэтых мэліорацыйных таварыствах. Некаторыя таварышы тут уносілі прапановы аб тым, каб гэтыя мэліорацыйныя таварыствы ўцягнуць у сельска-гаспадарчую коопэрацыю; некаторыя з гэтых таварыстваў ужо знаходзяцца ў сельска-гаспадарчай коопэрацыі, але ніякае дапамогі, ніякага інструктаваньня не атрымоўваюць, а наадварот,—прыходзяць часамі яшчэ да большага заняпаду, чым тыя, што не знаходзяцца ў сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Але, з другога боку, і Наркамзем і зямельныя органы на мясцох, таксама ня маюць магчымасьці нормальна абслугоўваць мэліорацыйныя таварыствы. Такім чынам ствараецца досыць дрэннае становішча з імі. З аднаго боку, яны растуць штогодна і досыць значна, а з другога боку—мы яшчэ да гэтага часу не намацалі формы, у якую гэту стыхійную сілу можна было-б зьмясьціць.

Памойму, трэба будзе ў бліжэйшы час абмеркаваць пытаньне адносна таго, каб дапамагчы гэтым мэліорацыйным гаспадаркам і комунам, а таксама і мэліорацыйным таварыствам, шляхам організацыі саюзу колектыўнага земляробства, выдзеліўшы яго з сыстэмы сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Можа быць такая форма і будзе жыцьцёвай, яе трэба прадумаць, вывучыць. Бо ёсьць, таварышы, такія моманты ў коопэрацыйным будаўніцтве, якіх ніяк нельга ажыцьцёвіць. Возьмем, напрыклад, лёнаводчую коопэрацыю; аб гэтым шмат гавораць і ў Расіі і ў іншых краёх, але да гэтага часу лёнаводчай коопэрацыі ў нас няма, тымчасам лён у некаторых мясцох складае самую высокую таварнасьць сялянскае гаспадаркі, а эконамістыя па сельска-гаспадарчай эканоміцы ,дагэтуль ня вывучылі, якія прычыны не дазваляюць сялянству аб'яднацца па лёну ў таварыствы. І калі гэтыя аб'яднаньні адбываюцца, дык яны распадаюцца.

Так што, быць можа, і мы, у стасунку да далейшае формы (бо пачатковую форму мы ўтварылі і яна зьяўляецца жыцьцёвай) нашых мэліорацыйных таварыстваў і іх аб'яднаньняў, павінны будзем усебакова вывучаць. Але, памойму, адзінай магчымай формай зьяўляецца аб'яднаньне ўсяго колектыўнага земляробства ў спэцыяльны

саюз, і вось гэтае пытаньне нам прыдзецца абмеркаваць. Здаецца, ён будзе ўжо ў бліжэйшы час конкрэтна пастаўлены перад коопэрацыйнымі ўстановамі.

Тут закраналі пытаньне аб тым, што бедныякі, асабліва ўдовы, ня могуць папасьці ў таварыствы. На гэта, разумеецца, трэба будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу,—і бедняку, таксама, як і ўдаве, павінен быць дадзены ў першую чаргу доступ у мэліорацыйныя таварыствы. Гэта ўжо будзе залежаць ад практычнай работы нашых нізавых устаноў. Але, бязумоўна, будуць выпадкі, калі будуць выганяць удоў і беднякоў з таварыстваў, калі будзе тэндэнцыя да чыста кулацкага аб'яднаньня. Такія выпадкі будуць асабліва цяпер, калі мы ўжо паказалі вялікі эфэкт у выніку правядзеньня мэліорацыі на балоце. Тутака, разумеецца, пачнецца барацьба за тарфяныя балоты, якія можна лёгка культываваць. Гэта будзе соцыяльнай барацьбой і тутака, зразумела, трэба будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на прыцягненьне беднякоў у мэліорацыйныя таварыствы.

Некаторыя таварышы гаварылі адносна крэдыту. Тутака ў кодэксе паказаць практычна, як гэты крэдыт павінен праводзіцца і даходзіць да селяніна, мы, разумеецца, ня можам. Мы даем толькі галоўныя прынцыпы крэдытаваньня сялян, а практычна гэтая праца будзе адбывацца (на гэта будзе дана адпаведная інструкцыя) на падставе гэтага закону. Мы толькі павінны тутака зазначыць, што крэдыт павінен быць доўгатэрміновы, нізкапроцантны, павінен выдавацца, у першую чаргу, мэліорацыйным таварыствам, бядняцкім гаспадаркам і г. д. А як ужо будзе праводзіцца тэхніка крэдытаваньня—гэта будзе ўжо залежаць ад далейшых інструкцый, правіл і г. д.

Мне было пастаўлена пытаньне адносна таго, нібы я сказаў, што мы за кошт серадняка будзем паляпшаць становішча бедняка. Я так не казаў. Я казаў, што без серадняка, як цэнтральнай фігуры ў земляробстве, мы з мэліорацыяй ня справімся, таму што ў серадняка больш капіталу, больш працаздольных членаў у сям'і і г. д. Ён усё такі—цэнтральная гаспадарчая фігура, і без яго мы ні ў якім разе ня справімся з гэтымі балотамі. А вось, калі мы ўцягнем шырокія слаі серадняка з яго сродкамі і работаю, тады мы створым больш магчымасьці ўцягваць у гэтае мэліорацыйнае будаўніцтва і нашу сялянскую беднату. Адна бедната, толькі са сваімі сродкамі, якіх у нас няма, бязумоўна, ня справіцца з тымі шырокімі задачамі, якія вымагаюць мэліорацыю. Дзеля гэтага, само сабою зразумела, што мы тут гэтыя экономічныя інтарэсы бедняка і серадняка павінны аб'яднаць і ўцягваць шырэй у нашае мэліорацыйнае будаўніцтва,—тым больш, што я хачу вам паказаць на адзін момант, калі ёсьць шырокая магчымасьць выкарыстаць гэтыя забалочаныя землі беднякамі і сераднякамі. Вы заўважаеце, зразумела, што амаль каля кожнае вёскі і сяла ёсьць тое або іншае балота, і селянін, які зараз вядзе гаспадарку, ведае ўжо смак добрае зямлі і нікуды не павінен далей ісьці, а адначасна, вядучы сваю гаспадарку, будзе мець магчымасьць пашыраць сваю плошчу шляхам мэліорацыі гэтых балот. Такім парадкам, значная частка нашае мэліорацыйнае зямлі, па сутнасьці, зьяўляецца ўнутрывясковым колёнізацыйным фондам для бедняка і серадняка, таму што гэтыя балоты знаходзяцца акурат сярод гэтых вёсак, прычым мэліораваць гэтыя землі, на мой погляд, вельмі лёгка.

І вось пры такім становішчы, асабліва гэтыя землі—балоты, якія знаходзяцца між вёскамі, і складаюць, па сутнасьці, унутрывясковы колёнізацыйны фонд.



